25 ТРАЎНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№56 (587) КОШТ СВАБОДНЫ




# Лукашэнка абвясціў «вайну» цэнам

## Але ён забыўся, што гэта з-за ягонай няўмелай палітыкі цэны ўзраслі, а народ дайшоў да жабрацтва

Павел ЯГОРАЎ

**З пачатку 1999 года спажывецкія цэны павялічыліся больш чым на 60 працэнтаў, хоць кіраўніком дзяржавы такі іх рост быў зацверджаны на ўвесь год.**

Відавочна, змагацца з інфляцыяй рынкавымі метадамі ўрад аказаўся не ў стане. Таму і з'явіўся ўказ прэзідэнта N285, які ўступіў у сілу 20 траўня. З гэтага часу ў Беларусі не дапускаецца рост цэн і тарыфаў без прыняцця адпаведных захадаў па сацыяльнай абароне насельніцтва. Урад і Нацбанк надзеленыя правам сумесна ўстанаўліваць і перагледжаць «гранічныя індэксы змянення адпускных цэн на тавары і паслугі, якія вырабляюцца на тэрыторыі рэспублікі». Новыя адпускныя цэны і адпускныя цэны на новыя тавары суб'екты гаспадарання абавязаныя рэгістраваць у дзяржаўных органах. Парадак гэтай рэгістрацыі і гранічныя індэксы змянення цэн павінен на працягу месяца зацвердзіць Савет міністраў. Перавышэнне ўстаноўленых цэн будзе караацца спагнаннем з суб'ектаў гаспадарання атрыманага даходу і буйных штрафаў як з прадпрыемстваў, гэтак і з іх кіраўнікоў.

Указам таксама зацверджаны пералік тавараў і паслугаў, цэны на якія рэгулююцца органамі дзяржаўнага кіравання і аб'яднаннямі, падпарадкаванымі ўраду. У пераліку — 59 пазіцыяў. Сярод іх — паліўна-энергетычныя рэсурсы, спірт і алкагольныя вырабы, перавозка пасажыраў і грузаў, лекавыя сродкі беларускага паходжання, медыцынскія паслугі, паслугі сувязі, сельскагаспадарчая прадукцыя пры закупцы, камунальныя паслугі.

### Каментар спецыяліста

**Віцэ-прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў (БСП) Аляксандр ПАТУПА:**

Указ не дасягне сваіх мэтаў і прывядзе да росту дэфіцыту. З'яўленне гэтага ўказа сведчыць аб тым, што ва ўлады больш няма сродкаў, каб утрымаць эканоміку ад далейшага падзення. У краіне няма залатавалютных рэзерваў на падтрыманне курсу рубля і забеспячэнне прадугледжаных указам кампенсацыяў насельніцтву ў сувязі з ростам цэн. Што тычыцца вытворцаў, то яны будуць імкнуцца заніжаць афіцыйныя цэны і «дамаўляцца» з чыноўнікамі кантралюючых ведамстваў. Гэта прывядзе да павелічэння ценявога абароту і ўзмацнення карупцыі ва ўладных структурах. Да восені бягучага года цэны і курс долара ЗША могуць узрасці яшчэ ў два разы.

У цэлым указ аб захадах па стабілізацыі цэн і тарыфаў — звяно ў ланцугу, які вядзе да поўнага аднаўлення сацыялістычнай мадэлі эканомікі. Мы ўжо «змагаемся» са спекуляцыяй і пасрэднікамі. Наступнымі крокамі павінны стаць забароны на прыватную прадпрымальніцкую дзейнасць і на захоўванне замежнай валюты. ■



Фота REX/ProMedia

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Газета засталася без лідэра

Галоўны рэдактар мінскай незалежнай газеты «Навінкі» Паўлюк Канавальчык быў моцна збіты ўвечары 21 траўня каля пад'езда ўласнага дома. Прыкладна ў 23 гадзіны рэдактар вяртаўся дахаты. Раптам перад самым пад'ездам да яго падскочылі трое невядомых хлопцаў у цывільным і, не гаворачы ні слова, пачалі збіваць. Па словах адказнага сакратара «Навінак» Алеся Мазура, экзекуцыя над ягоным шэфам працягвалася прыкладна 10 хвілінаў, пасля чаго невядомыя злачынцы зніклі. З пераломамі чэрапа і страсеннем мазгоў Паўлюк Канавальчык быў дастаўлены ў шпіталь, дзе ўчора яму зрабілі складаную аперацыю. Па словах А.Мазура, гэта маглі быць звычайныя хуліганы, але нельга выключаць і таго, што Канавальчыка вырашылі «правучыць» прадстаўнікі спецслужбаў. Газета «Навінкі», орган «менскага контркультурнага бамонду», была заснаваная ў студзені 1998 года групай анархістаў і мела на мэце сатырычна рэагаваць на ўсе працэсы жыцця. Ад газеты даставалася ўсім — і левым, і правым, і ўладам, і апазіцыі. У студзені гэтага года «Навінкі» былі афіцыйна зарэгістраваныя ў Дзяржкамітэце па друку.

*Альгерд НЕВЯРОЎСКІ*

### Еўропу залівае

У краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы пасля праліўных дажджоў пачалася паводка, у выніку якой не менш за 7 чалавек загінула. Гэтая паводка закранула Германію, Швейцарыю, Аўстрыю, Румынію і ацэньваецца як адна з наймацнейшых у гэтым рэгіёне. Сотні жыхароў нямецкіх гарадоў Гарміш-Партэнкірхен, Іменштадт і Мітэльвальд пад пагрозай паводкі былі эвакуяваныя на лодках і верталётах. У Швейцарыі адзін нямецкі турыст загінуў пад селевым патокам. У Аўстрыі жанчына патанула ў разліўшайся рацэ. У Германіі двое мужчынаў паважнага ўзросту патанулі ў сваіх падвалах.

*Расціслаў ПЕРМЯКОЎ*

МЕРКАВАННІ

# Што думаюць пра вынікі «выбараў-99» былыя кандыдаты?

## Крыніца ў Цэнтрвыбаркаме паведаміла НАВІНАМ лічбы прагаласаваўшых: за Чыгіра — 1,5 мільёна, за Пазьняка — 2,3 мільёна

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

«Для нас неістотныя гэтыя лічбы, бо мой муж і я не хочам мець ніякага дачынення да любога падману нашага народа», — гэтак пракаментавала неафіцыйныя вынікі галасавання **Юлія Чыгір**. Яна, канешне, здзейсненая перамогай кандыдата свайго мужа, бо папярэднія вынікі галасавання па раёнах адразу пасля выбараў значна адрозніваліся ад версіі абласных падліковых камісіяў. «Адразу пасля выбараў мы тэлефанавалі ў раёны. Высветлілася, што Пазьняк набіраў па 9, 17, 22, 23, максімум 27%. Астатнія аддавалі галасы за Чыгіра. Што атрымалася потым, я не ведаю, ды мяне і не цікавіць. Дарэчы, я неўпэўненая, што да гэтага мае дачыненне і сам Пазьняк», — заявіла Юлія Чыгір. Паводле яе словаў, на канчатковае рашэнне Цэнтрвыбаркама прызнаць выбары неадбыўшыміся Міхаіл Чыгір адрэагаваў спакойна. «Муж ведаў, з якімі цяжкасцямі ўсутрэнуцца арганізатары выбараў, і быў гатовы да ўсяго. Ён не шкадуе, што ўвязаўся ў гэтую бойку», - заявіла жонка экс-прэм'ера.

Другі былы кандыдат у прэзідэнты, лідэр БНФ **Зянон Пазьняк**, каментуючы вынікі выбараў замежным СМІ, заявіў, што для яго не было нечаканым рашэнне Цэнтрвыбаркама не абвяшчаць пераможцу, а прызнаць выбары неадбыўшыміся. «Пасля таго, як усе зразумелі, што арганізатары выбараў даюць «ліпавыя» звесткі накont яўкі, а я выйшаў з ліку кандыдатаў, Ганчару заставалася адзінае — заявіць, што выбары не адбыліся». Пазьняк упэўнены, што Ганчар зараз будзе «займацца выратаваннем сваёй рэпутацыі». Наконт канкрэтных лічбаў Пазьняк заўважае: «Я адсочваў сітуацыю фактычна па кожным раёне. Атрымлівалася, напрыклад, што ў Віцебскую вобласць завезлі па 500 бюлетэняў на раён, хоць жыхароў у кожным раёне прыкладна па 60 тысяч». Пасля гэтага яму стала зразумела, наколькі «сумленна» праводзяцца выбары, і ён зняў сваю кандыдатуру. Пазьняк пацвердзіў сваю пазіцыю, заснаваную на тым, што выбары, як і ўвогуле палітыку, трэба праводзіць сумленнымі сродкамі. ■

МЫ І СВЕТ

# Еўропа кідае Лукашэнку «выратавальнае кола»

Алесь ДАШЧЫНСКІ

**Дзеючы старшыня АБСЕ, міністр замежных справаў Нарвегіі Кнут Валебек заклікаў прэзідэнта Лукашэнку распачаць дыялог з апазіцыяй.**

Дзіўна, чаму так настойліва еўрапейцы прапануюць уладам Беларусі неадкладна распачаць дыялог з апазіцыяй, быццам нельга адшукаць больш эфектыўных лекаў для рэжыму. За стол перамоваў прадстаўнікі апазіцыі ўжо сядалі пры пасрэдніцтве ўплывовых міжнародных арганізацыяў, але скончылася дыялог нічым. Усё ператварылася ў бессэнсоўную дыскусію. Чарговы віток «дыялогу» цяпер прапануецца пры пасрэдніцтве АБСЕ. Але які сэнс цяпер садзіцца за стол перамоваў з Аляксандрам Лукашэнкам, у якога хутка заканчваецца легітымны перыяд прэзідэнцтва? Няўжо за нейкія пару месяцаў магчыма дамовіцца, калі на працягу ажно пяці гадоў дамовіцца не змаглі? Справа ў тым, што дыктатар здольны толькі да маналогу, ён чуе і бачыць толькі сябе. А падстаўныя фігуры, якія замест яго трапляюць на перамовы, не маюць рэальнага ўплыву на сітуацыю ў краіне. Няўжо еўрапейцы не зразумелі гэтага падчас крызісу вакол пасольскіх рэзідэнцыяў у комплексе «Дразды», — гэтае ж пытанне дагэтуль застаецца незавершаным.

Па словах дэпутата Анатоля Лябедзькі, у перспектыве ў перамовах павінны ўдзельнічаць прэзідэнт Лукашэнка і Вярхоўны Савет. Аднак пры такім фармаце, які не прадугледжвае ўдзел у «дыялогу» апазіцыйных партыяў, добрыя намеры могуць прывесці толькі да расколу ў шэрагах апазіцыі.

Здаецца, цяпер ужо апазіцыі няма чаго траціць час на дыскусіі. Набліжаецца 20 ліпеня, і пасля гэтай даты патрэбна проста дамагацца адстаўкі прэзідэнта. ■

НАДВОР'Е




**26 траўня** па Гомельскай вобласці пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, вецер няўстойлівы, слабы. Тэмпература паветра ноччу 5—10 градусаў. Па астатніх абласцях месцамі кароткачасовыя дажджы, вецер няўстойлівы, слабы, тэмпература паветра ноччу 6—11.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**430 000**



АЎТОРАК З КАСТУСЁМ ТАРАСАВЫМ

## Героі Ратэрдамскага

Нядаўна пры сустрэчы мой знаёмы, заклапочаны надвор'ем, якое сапсавала ягоныя планы дачных пасадак, растлумачыў мне, што незвычайнае паніжэнне тэмпературы — запланаваная дыверсія Захаду. Раззлаванае NATO выпрабоўвае на Беларусі, Расіі і Украіне новы від экалагічнай зброі, якая, падобна ледавіку, выклікае пахаладанне і адпаведна прымусіць увосень закупаць заходнія прадукты. «Ну, а што тарнада адкуль?» — «А што тарнада? Выпрабавалі ў маланаселеным штаце. Паглядзім, куды скіруе гэтае тарнада!». Адчуваючы мой недавер, ён дадаў, што свае сакрэтныя звесткі пра зброю атрымаў ад дасведчанага кандыдата тэхнічных навук.

У гэты ж дзень я пачуў па радыё папярэджанне не падыходзіць да сектантаў і не адгукацца на іхныя запрашэнні паслухаць пропаведзь, бо можна па наіўнасці патрапіць да сатаністаў, якія прынясуць вас у ахвяру (зарэжуць?). Аказалася, што пра жыццё і здароўе цікаўных да пратэстанцтва клапоціцца перадача «Святло праваслаўя».

Пад уплывам дзіўнай інфармацыі я прыгадаў знаёмых, перакана괞ых, што беларусы страцілі мову, бо выракліся Бога, і з гэтай жа прычыны на іх абрынулася чарнобыльская радыяцыя, а каб вярнуліся мова і гістарычная памяць, трэба пасціцца і хадзіць у царкву. Прыгадаліся знаёмыя, якія былі ўпэўненыя, што Зянон Пазьняк — апостал, і апаненты, на чыю думку Пазьняк — пасланец сілаў зла. Зараз першыя злуюць, што ён з'ехаў замест таго, каб сядзець у турме і быць нацыянальным героем. Ёсць шмат людзей, якія лічаць пасланцом зла Лукашэнку, але не меншая колькасць мяркуе, што Лукашэнка — месія, дзякуючы якому пра наш мядзвежы кут даведаўся ўвесь свет.

Ад палітычных дзеячоў я даведаўся, што на поўдні Беларусі блізка да паверхні падыходзіць тая труба алмазных выкапняў, з другога канца якой мажнее Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка, і варта пачаць кар'ерную здабычу. А каля Мінска ёсць залатаносны пясок, ды аб'ект засакрэчаны ўладамі.

На сходзе расчараваных у бясцэнзавай дэмакратыі даявлося пачуць, што Беларусі замест прэзідэнта з пяцігадовай уладай патрэбны пажыццёвы манарх, якога трэба называць «вялікі князь літоўскі», і на гэтую пасаду трэба запрасіць Васіля Быкава, а калі ён не пагодзіцца ўскласці на сваю галаву карону, дык прапанаваць яе Нілу Гілевічу.

А чытачы містычных тэкстаў даводзяць, што мы мусім аб'ядноўвацца з Расіяй, бо, па прароцтву Настрадамуса, гадоў праз дзесяць адбудзецца нашэсце кітайцаў, якія нас, адасобленых, асімілююць, і мы станем вузкавокія і жоўтаскурыя.

Добра, што ёсць «Пахвала дурасці» Эразма Ратэрдамскага, дзе можна ўбачыць партрэты сённяшніх людзей, намаляваныя чатыры з палавай стагоддзі таму.

# ЗША зноў незадаволеныя беларускім прэзідэнтам

Аддзел інфармацыі

**Прэс-сакратар ДзяржДэпартамента ЗША Джэймс Рубін выступіў з заявай наконт адбыўшыхся 16 траўня г.г. выбараў прэзідэнта Беларусі, аб'яўленых Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га склікання. Аб гэтым паведаміла інфармацыйная служба пасольства ЗША ў Беларусі.**

«Ініцыятыва апазіцыі па правядзенні выбараў прадэманстравала намаганні дэмакратаў у Беларусі правесці дыялог з беларускім народам, які рэжым Лукашэнка працягвае адхіляць, — гаворыцца ў заяве. — Гэта драматызавала канстытуцыйны і палітычны тупік, які стварыў прэзідэнт Лукашэнка, які адыйшоў ад Канстытуцыі краіны ў 1996 годзе і прадпрымае дзеянні па прыгнячэнні правоў чалавека. Гэтая ініцыятыва паказала ўсім ягоную нязгодлівасць аб'яднаць краіну і забяспечыць палітычную стабільнасць».

ЗША асуджаюць «захады, прадпрынятыя беларускімі ўладамі па знішчэнні намаганняў, накіраваных на вяртанне краіны на шлях дэмакратычнага развіцця». Пры гэтым у заяве ўзгадваюцца факты «рэпрэсіяў супраць арганізатараў і ўдзельнікаў выбараў», а таксама «сфабрыкаваныя абвінавачванні» ў дачыненні да кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра. «Мы яшчэ раз заклікаем урад Беларусі, — гаворыцца ў заяве Джэймса Рубіна, — зьмяніць курс і праявіць ініцыятыву па правядзенні без папярэдніх умоваў дыялогу з дэмакратычнымі сіламі краіны і з грамадствам у цэлым. Злучаныя Штаты будуць працягваць аказваць моцную падтрымку дэмакратыі і выкананню правоў чалавека ў Беларусі і будуць настойваць на тым, каб міжнародная супольнасць займала такую ж пазіцыю». ■

С'ВЯТА

## Аляксандр Пушкін прыйдзе ў Мінск «каменным госцем»

Марат ГАРАВЫ

**З 24 траўня па 6 чэрвеня ў Беларусі пройдуць тыдні вялікага рускага паэта Аляксандра Пушкіна, прысвечаныя 200-годдзю з дня яго нараджэння.**

Святкаванні завершацца ў дзень нараджэння паэта. Лёс А.Пушкіна звязаны і з беларускай зямлёй. У вёсцы Цялуша Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці знаходзілася радавое памесце ўнучкі паэта Наталлі Аляксандраўны Веньямінавай. У 70-я гады мінулага стагоддзя ў Навагрудку служыў яго старшы сын, у якога ў Беларусі нарадзілася дзіця, памерлае ў маленстве. Цяпер магіла ўнука А.Пушкіна ў Навагрудку аднаўляецца.

Акрамя таго, А.Пушкін добра ведаў Адама Міцкевіча. Паэты зносіліся паміж сабой, высока цанілі творчасць і перакладалі творы адзін аднаго, нягледзячы на значныя разыходжанні ў палітычных поглядах на сучаснае жыццё і ўласную ў ім ролю.

Паводле інфармацыі Нацыянальнага аргкамітэта па святкаванні 200-годдзя з дня нараджэння А.Пушкіна, у рамках тыдняў пройдуць урачыстасці ў Цялушы і Навагрудку. У Мінску адбудзецца ўрачыстае адкрыццё помніка А.Пушкіну, «падараванага» беларускай сталіцы Юрыем Лужковым. ■

ЗАМЕЖЖА

## У Германіі абралі прэзідэнта

Алесь ДАШЧЫНСКІ

**У нядзелю абраны новы прэзідэнт Германіі, ім стаў папулярны палітык, 67-гадовы Ёханэс Раў.**

Прэзідэнт Германіі выбіраецца федэральным сходам, які склікаецца адзін раз у пяць гадоў выключна для гэтай працэдуры. Па Канстытуцыі прэзідэнт Германіі можа адыграць істотную ролю падчас вострага палітычнага крызісу, у астатнім ён не надзелены ўладнымі паўнамоцтвамі і выконвае рэпрэзентатыўныя функцыі. Пераможца цяперашніх выбараў Ёханэс Раў вядомы як шматгадовы прэм'ер-міністр зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія і паплечнік Вілі Бранта. Не сакрэт, што новы федэральны прэзідэнт мае патрэбу ў сур'ёзнай апрацыі і адкладваў яе з-за выбараў, але нават гэтая акалічнасць не паўплывала на вынік галасавання. Аднак да канца было няясна, ці аддадуць за яго галасы дэпутаты ад партыі зялёных, якая ўваходзіць у правячую кааліцыю. Многія з іх крытычна адносяцца да налёту NATO ў Югаславіі, а Раў з'яўляецца прыхільнікам прадаўжэння аперацыі на Балканах. ■



Новы прэзідэнт Германіі Ёханэс Раў

ФЭСТЫВАЛЬ

## Канская нечаканасць

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**На 52-м фестывалі кіно ў Канах, які скончыўся ў нядзелю, адбылася сапраўдная сенсацыя. Галоўны прыз — «Залатую Пальмавую Галіну» — атрымаў безумоўны аўтсайдэр, фільм бельгійскіх рэжысёраў братоў Люка і Жан-П'ера Дардэнаў «Разэта».**

«Разэта» — фільм пра жыццё 18-гадовай дзяўчыны, якая імкнецца вырвацца з цесных абдымкаў беднасці. Актрыса Эмілі Дэкен, якая выконвала галоўную ролю ў фільме, таксама атрымала «залатую пальму» — але разам з француженкай Севярын Канэль (фільм Бруна Дзюмона «Чалавечнасць»).

Прыз за лепшае выкананне мужчынскай ролі дастаўся Эманюэлю Шатэ (таксама за «Чалавечнасць»). Такім чынам, «Чалавечнасць» таксама атрымала вялікую порцыю ўшанаванняў. Цікава, што ў фільме зняліся непрафесійныя акцёры — і сталі лаўрэатамі. Напрыклад, Севярын Канэль раней працавала на фабрыцы па замарозцы садавіны. Калі ёй прапанавалі зняцца ў фільме, яна не паверыла ў сур'ёзнасць прапановы. «Я думала, гэта проста жарт», — прызналася яна.

Лепшым рэжысёрам фестываля быў прызнаны іспанец Педра Альмадавар за стужку «Усё пра маю маці». Шмат хто з крытыкаў чакаў, што менавіта ягоны фільм атрымае «Залатую Пальмавую Галіну». Але Альмадавару на гэты раз не пашанцавала.

Расійска-нямецкі фільм «Малох» рэжысёра Аляксандра Сакурава, які распавядае пра ўзаемаадносіны паміж Адольфам Гітлерам і Евай Браўн, атрымаў прыз за лепшы сцэнар.



Пераможцы Канскага фестывалю бельгійскія рэжысёры браты Люк і Жан-П'ер Дардэны цалуюць выканаўцу галоўнай ролі ў стужцы «Разэта» Эмілі Дэкен

ЦЫТАТА НУМАРА

**Давайте бороться за чистоту языка. У нас говорят, что в Беларуси существуют мэры, сенаторы, губернаторы. Тогда надо и участкового шерифом называть.**

*Константин СКУРАТОВИЧ*
*Из выступления на заседании «круглого стола», 21 мая 1999г.*

## 1 ліпеня бартэр абкладуць налогам

Аддзел інфармацыі

Стаў вядомы змест праекта ўказа прэзідэнта Беларусі аб увядзенні з 1 ліпеня 1999 года часовага рэнтнага збору з беларускіх суб'ектаў гаспадарання пры правядзенні імі знешнегандлёвых тавараабменных (бартэрных) аперацыяў. Па звестках БелаПАН і некаторых афіцыйных СМІ, гэты ўказ можа быць падпісаны кіраўніком дзяржавы ў самы бліжэйшы час.

Згодна з праектам гэтага дакумента, стаўка рэнтнага збору павінна скласці 5 працэнтаў — па кантрактах, заключаных у адпаведнасці з рашэннямі ўрада, альбо якія прадугледжваюць пастаўку ў рэспубліку сыравіны, матэрыялаў, камплектуючых і абсталявання для ўласнай вытворчасці, і 15 працэнтаў — па іншых тавараабменных кантрактах. Указаны збор будзе залічвацца ў фонд падтрымкі экспарту. ■

## Маладыя кансерватары заклікаюць да блакады

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

На чарговым з'ездзе маладых кансерватараў Еўропы, які адбыўся на пачатку тыдня ў Рыме, пад уздзеяннем прадстаўнікоў «Маладога Фронту» і «Грамадзянскага Форуму» была прынятая рэзалюцыя па сітуацыі ў Беларусі. Прадстаўнікі маладзёжных арганізацыяў Еўропы заклікалі ўсе дэмакратычныя краіны кантынента з 20 ліпеня аб'явіць эканамічную і палітычную блакаду Беларусі. Нагадаем, менавіта ў гэты дзень згодна Канстытуцыі 1994 года заканчваецца тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта Лукашэнкі.

У бліжэйшых планах маладых кансерватараў — 6 чэрвеня падчас футбольнага матчу Данія — Беларусь узняць на трыбунах вялікі бел-чырвона-белы сцяг у знак падтрымкі дэмакратыі ў Беларусі. ■

## «Зялёныя» за раўнапраўе

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Нямецкія «зялёныя» — малодшыя партнёры сацыял-дэмакратаў у кіруючай кааліцыі — запатрабавалі ўнесці ў нацыянальнае заканадаўства папраўку, якая б абавязала мужчынаў на роўных правах з жанчынамі займацца хатняй гаспадаркай.

Змагары за экалогію патрабуюць замацаваць за мужчынамі абавязак разам з жанчынамі займацца гатаваннем ежы, мыццём посуду і прыборкай кватэры. Раней «зялёныя» падлічылі, што калі ў сям'і і муж, і жонка ходзяць на працу, то жанчыне даводзіцца кожны дзень працаваць на тры гадзіны болей, чым мужчыне. ■

СУДЫ

## Суддзя не зразумеў Скочку

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

У Мінскім гарадскім судзе працягваецца працэс над намеснікам старшыні «Маладога Фронта» Яўгенам Скочкам. На пачатку другога паседжання суддзя Валерый Камісараў спыніў паседжанне, каб запрасіць у судовую залу перакладчыка, паколькі падсудны Скочка адмовіўся адказваць на пытанні па-руску.

Пасля перапынку абаронца маладафронтаўца Сяргей Лепеш заявіў хадайніцтва аб допуску да працэсу ў якасці грамадскіх абаронцаў Барыса Гюнтэра і Гары Паганяйлы, а таксама заявіў дадатковых сведкаў па справе. Ні пракурор Чырын, ні суддзя не пярэчылі абаронцу, і ўсе хадайніцтвы былі задаволеныя, пасля чаго зноў быў аб'яўлены перапынак для таго, каб грамадскія абаронцы змаглі азнаёміцца з крымінальнай справай. ■

СУСЕДЗІ

## Хуліганства па-эстонску

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Днямі дабавілілася клопатаў у паліцыі эстонскага горада Палдзіскі. Уначы невядомыя гарачыя эстонскія хлопцы ўстанавілі герб СССР на даху самага высокага ў Палдзіскі будынка — былога вучэбнага цэнтра маракоўпадводнікаў, вядомага таксама ў горадзе пад назвай «Пентагон».

Герб Савецкага Саюза памерам два на два метры некалькі гадзінаў стаяў на даху будынка, пакуль яго не знялі мясцовыя вытрабавальнікі. Паліцыя класіфікавала дзейнасць «саветалюбаў» як хуліганства і ўзбудзіла крымінальную справу.

Цікава, што да 1994 года Палдзіскі быў закрытым горадам — там знаходзілася база расійскага Ваенна-Марскога Флота. Савецкі герб вісеў на будынку марскога вучэбнага цэнтра да самага вываду расійскай базы. Потым ён знік, але, хутчэй за ўсё, так і не быў прыбраны з даху. ■

ПРЫВАТНАЯ ДУМКА

# Тихая оккупация под грохот барабанов

Александр ДУБРАВИН

**На наших глазах совершается последний акт позорного политического спектакля. Президент Лукашенко продает свою страну, как тать чужую лошадь, — торопливо, суетливо, по дешевке. Сиплым придушенным голосом нахваливает ее стати. В качестве скупщика краденого выступает Кремль, который прекрасно осведомлен о незаконности сделки, но не смущается. Москве не впервой брать чужое. Главное, чтобы со стороны это выглядело как настойчивая инициатива самой лошади: она, мол, совсем оголодала, волков боится, неухожена, беспомощна, сколько раз уж просилась снова к нам на скотобойню, мы и пошли ей навстречу. Сделали одолжение...**

В случае успеха это «одолжение» вскоре приведет к тому, что белорусы станут ненавидеть Москву точно так же, как ее уже ненавидят некоторые соседи. Ведь после третьей по счету оккупации нашей страны Россией (назови ее хоть союзом, хоть интеграцией, хоть конфедерацией – суть одна), жизнь белорусов не улучшится, ожидания не реализуются, мечты не исполнятся, обещания не материализуются. Напротив, наш народ ожидает либо изнурительная многолетняя борьба за потерянную свободу, либо полная гибель: идею независимости нельзя убить, пока жив хоть один ее носитель. И на этот раз путь к свободе Беларуси будет лежать через кровавый распад Российской Империи на составляющие.

Речь фактически идет о захвате страны спецслужбами России, а за словами Москвы о дружбе и сотрудничестве прячется циничное агрессивное желание аннексии. На примере подготовки и проведения этой отвратительной захватнической акции легко убедиться в правоте американского президента Рональда Рейгана, который однажды назвал Россию «Империей Зла». Эклектичное, неповоротливое образование, занимающее одну восьмую часть суши, экономически неэффективное и расточительное, до сих пор живет по экстенсивным законам хищников и рассматривает окружающий мир как враждебный ему. Централизованное директивное правление Москвы, явное и скрытное, часто несправедливое и насильственное, остается главной объединительной силой этого пестрого конгломерата из 140 наций и национальностей. Самый свежий пример такой политики – попытка Кремля во время выборов президента в Карачаево-Черкессии провести во власть своего ставленника, вызвавшая массовые волнения возмущенного населения.

В целом в среде высших российских чиновников, военных, работников средств массовой информации, творческой интеллигенции очень популярна идея создания некоего Сверхгосударства, противостоящего Западу силой оружия и контролирующего весь мир. «Русская земля, — сказал мне как-то в полемическом запале один известный московский шовинист, — везде, где хотя бы однажды оправился российский солдат». Традиционное имперское мышление, суть которого можно выразить лозунгом «кто не с нами, тот против нас», проявляется в стремлении подчинить великодержавным геополитическим интересам Москвы, направленным против стран Запада, национальные интересы всех соседей России. Именно поэтому идет тихое, но навязчивое превращение независимого нейтрального европейского государства Республика Беларусь в военно-промышленный придаток новой Великой Империи.

Вне централизации и тотального контроля Россия как государство в ее нынешнем виде существовать не может. Только они позволяют Москве до поры до времени держать в повиновении национальные провинции и свободно распоряжаться их ресурсами. «Ошибочно думать, — писал русский философ Николай Бердяев, – что то, что называется модным словом тоталитаризм, есть выдумка большевиков, которой потом начали для других целей подражать их враги фашисты. Тоталитаризм – старая русская традиция». Краткий всплеск свободы после Горбачева – явление, скорее всего, временное. Имидж России как страны, прочно ставшей на демократический путь развития, не соответствует действительности и рассчитан на наивных западных политиков. Эпоха Бориса Ельцина заканчивается, а следующая наверняка станет этапом нового и более страшного противостояния Империи и Запада.

В значительной мере дальнейшую судьбу России отягощает обладание ядерным оружием, что не дает шанса другим странам прийти на помощь заключенным этой огромной «тюрьмы народов» и освободить их, а самих великороссов лишить великодержавных иллюзий и заставить заниматься устройством собственного благополучия вместо претензий на мировое господство. Что дает основания для подобных наглых заявлений? Конечно же, атомное оружие. Это последний и самый веский аргумент Москвы в любом международном споре. Это то, что дает ей повод считать себя сверхдержавой.

Итак, нам предлагают интеграцию с «тюрьмой народов». Нас снова уговаривают переезжать из отдельной квартиры в коммуналку с агрессивными жильцами. Предлагает Москва, но устами своей марионетки Лукашенко, беспомощного правителя, вверившего свою судьбу Кремлю. Все козыри сейчас на руках у Кремля и Лукашенко. Радио, телевидение, пресса, деньги, спецслужбы, агенты влияния, шоу-бизнес и русская православная церковь. Вместе с передовыми отрядами интеграторов на страну надвигается поток великодержавной, монархической, шовинистической (сродни фашистской) пропаганды. Все это направлено сегодня против свободы и независимости Беларуси. На нашей стороне остаются правда и демократические страны.

Угроза поглощения падающей в пропасть Россией независимого государства Республика Беларусь сегодня, увы, как нельзя более реальна. И к этому нужно быть готовыми и нам, и всему мировому сообществу. Создание «дроздовско-кремлевского союза» станет моментом появления в Европе нового тихого Косово. Нужно отчетливо понимать, что при таком повороте событий у Лукашенко полностью развязываются руки для физической расправы с политическими противниками, всеми недовольными его деятельностью политически активными людьми, которых сегодня – сотни тысяч. Место для них найдется в лагерях российского ГУЛАГа, потому что белорусские тюрьмы и без того сейчас переполнены.

Не следует забывать, что после оккупации Беларуси наши юноши снова пойдут умирать за российские интересы в горячие точки. В армию начнут призывать и здоровых и больных. Служить они будут по всей России, в тайге, тундре и пустыне.

На территории Беларуси появятся все виды ядерного оружия. Необычайно просто будет перевести страну в режим осажденной крепости, ввести карточную систему, военное положение, принять в альянс Югославию. Страна снова станет авангардом российского милитаризма, электронного шпионажа, «холодной войны».

Уже в самое ближайшее время Беларусь может потерять весь свой интеллектуальный потенциал. По приблизительным подсчетам, после фактического образования «союза» страну в короткие сроки покинут от ста до двухсот тысяч самых предприимчивых, мыслящих, образованных людей, которые не желают служить в армии России, иметь и гражданство и подчиняться ее законам. Страной, в которую могут направиться потоки беженцев, станет, скорее всего, Германия. В опросах часто называются также Польша, Чехия, Бельгия, Украина, Литва.

Уже сегодня многие молодые белорусы просят в западных странах политического убежища. Только за прошлый год в цивилизованные страны перебрались сотни беженцев из Беларуси. Недавно в Брюсселе работники иммиграционной службы Бельгии интересовались у представителей Хартии'97 положением с правами человека в Беларуси, структурой наших партий и общественных движений. Люди, преследуемые в нашей стране за политические убеждения, на Западе вместе со статусом политбеженца получают и соответствующую материальную поддержку.

В Польшу, Литву, Израиль и Украину направятся те белорусские граждане, которые имеют там родственников, но до сих пор надеялись, что их знания, опыт и умения пригодятся на родине. Служить оккупантам они считают ниже своего достоинства.

Эмигрировать вынуждены будут сотни тысяч предпринимателей. В будущем «союзе» у них не будет шансов на достойную жизнь. Ведь в отношении предпринимателей представители нынешней власти ведут чрезвычайно агрессивную политику. Президент Лукашенко, который очень чутко реагирует на все сигналы Москвы, в пароксизме ненависти однажды даже назвал предпринимателей «вшивыми блохами» и угрожал расправой.

Словом, в случае реального возникновения «кремлевско-дроздовского» альянса победу будут праздновать сторонники «холодной войны» и возврата в прошлое. А это полностью противоречит национальным интересам как Беларуси, так и всего демократического мира.

Но есть ли у нас шансы спасти свою страну? Безусловно, есть! И немалые! Среди сторонников независимой Беларуси – цвет нашего общества, лучшие люди нашей страны. Москва должна почувствовать, что тихой аннексии Беларуси у нее не получится. Более того, включая Беларусь в список своих провинций, она сильно рискует получить очаг организованного радикального сопротивления великодержавной политике внутри Империи. Нужно понимать, что через некоторое время на повестке дня будет стоять вопрос координации действий сил сопротивления всех угнетенных Москвой народов. И эта организация уже обойдется без помощи Запада. Она попросит помощи на мусульманском Востоке. Освободительная война в России – не придумка романистов, а грядущий этап распада на составляющие огромного конгломерата, который в течение столетий пугал своим видом весь мир. Освобождение от него принесет свободу сотням угнетенных народов. ■



МЕРКАВАННЕ КРАІНЫ

**Мы продолжаем публиковать результаты социологических опросов, проводимых лабораторией «НОВАК» Андрея Вардомацкого с 26 апреля по 3 мая 1999г. Репрезентативная выборка — 1.094 респондентов.**

## Как мы живем?







Из месяца в месяц ни один белорус не оценивает состояние экономики нашей страны как «очень хорошее». Если суммировать тех, кто считает, что экономика Беларуси находится в «плохом» или «очень плохом» состоянии, получается шокирующая цифра в 63,3%. Тенденций к улучшению как не было, так и нет. Голой пропагандой в государственных средствах массовой информации убедить белорусов в том, что их жизнь улучшается, невозможно.

Ежемесячно 55 – 70% населения утверждает, что состояние экономики ухудшается. Виной тому постоянное снижение реальных доходов граждан и стремительное обесценивание белорусского рубля. Нынешняя власть никак не может не только переломить ситуацию и добиться экономического роста, но и приостановить падение экономики в пропасть. ■

УЛАДА

# «Срок» для премьера

Вика ТУРОВА

**С нынешним составом правительства президент готов работать до 2001 года. Если бы эту сакраментальную фразу произнес Борис Ельцин, все российские политологи заговорили бы о новых кандидатурах на пост российского премьер-министра. Но в отличие от московского коллеги, поменявшего за последние два года четверых премьеров, президент Беларуси впервые заговорил о том, какой срок он дает своему кабинету.**

Александр Лукашенко решил не проводить кадровые перестановки в правительстве, невзирая на все прогнозы белорусских аналитиков. Он готов терпеть Сергея Степаныча со товарищи аж до самых президентских выборов, которые, может быть, и состоятся в 2001 году. Ровно 5 часов в минувшую пятницу глава государства объяснял свою политику многострадальному кабинету. В течение 5 часов вице-премьеры за закрытыми дверями держали отчет перед президентом о «выполнении указаний». Впечатлениями о прошедшем поделился со зрителями «Панорамы» Леонид Козик. Счастливый, он сообщил, что ему крупно повезло, что он отчитывался не первый. «Первый больше всего «шишек» получает», — честно признался он. Представляете себе картину: вице-премьеры перед докладом у президента на спичках тянут, кому первому амбразуру прикрывать...

«Правительство — это живой организм... Министры в силу различных обстоятельств могут в нем меняться», — считает белорусский президент. И правильно, пускай не расслабляются. Впереди грядет еще 1 июня — в этот день белорусское правительство должно окончательно разобраться с ценами и доложить президенту о результатах разборок. А ты знаешь, все еще будет... ■

ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА

# Цэпкала прыхапіў у палёт граматы

Алесь ДАШЧЫНСКІ

На мінулым тыдні пасол Беларусі ў ЗША Валерый Цэпкала паляцеў на тыдзень у Вашынгтон. Візіт арганізаваны, як нам паведамілі ў прэс-службе МЗС, у адказ на візіт у Беларусь амерыканскага пасла Дэніэла Спекхарда. В.Цэпкала захацеў наведаць сваё месца працы, на якім ён адсутнічаў літаральна год з-за крызісу вакол дыпламатычных рэзідэнцыяў у комплексе «Дразды». Ён плануе правесці некалькі сустрэчаў з прадстаўнікамі дзярждэпартамента, Савета нацыянальнай бяспекі ЗША і Кангрэса. Можна не сумнявацца, што гэтыя гутаркі будуць не вельмі прыемнымі.

Пасля кароткачасовага турнэ ў Вашынгтон В.Цэпкала збіраецца заехаць у Мексіку, дзе напрыканцы траўня плануе ўручыць мексіканскаму прэзідэнту вярыцельныя граматы пасла па сумяшчальніцтву ў гэтай краіне. Такім чынам, у Цэпкалы ёсць магчымасць замацавацца на амерыканскім кантыненце. Аднак у Мексіцы няма пасольскага памяшкання, і В.Цэпкала збіраецца неўзабаве вярнуцца дадому. ■

МЫ І СВЕТ

# Столица Польши покорена... «Народным альбомом»

## Впервые в Варшаве прозвучал «Народный альбом» в исполнении белорусских рок-музыкантов. На премьере присутствовал Зенон Пазьняк с женой

Людмила ГУЛЯКЕВИЧ

Это не первое исполнение «Альбома» в Польше. В прошлом году после выступления на фестивале в Бельске Подляском белорусов пригласили с концертом в Познань. Еще раньше об «Альбоме» как о выдающемся культурном событии в Беларуси начала писать польская пресса и говорить телевидение. Этот интерес не пропадает доныне. Так, накануне выступления белорусов в Варшаве, еженедельное приложение к «Gazete Wyborczej» — «Magazin» (самый массовый журнал в Польше — его тираж 450 тысяч) опубликовал интервью с Михаилом Анемподистовым, автором текстов «Альбома», и солисткой Касей Камоцкой; а в объемной статье «Беларусь возвращается к княжеству» ее автор Войцех Мазярски предпринял попытку между строками песен «Альбома» найти «другую», не советскую Беларусь. *«По существу «Альбом» — это не историческая повесть, и речь здесь идет не о давно минувших временах. В действительности это насквозь современная попытка отыскать ответ на вопрос: если отбросить все, что построили полчища советских Юзиков, то что белорусам останется? Есть ли еще какая-то иная Беларусь, к традиции которой могли бы белорусы обратиться?»*...

Битком забитый зал варшавского Малого театра, живое соучастие и восхищение талантом исполнителей, в первую очередь Лявона Вольского, неумолкающие долго аплодисменты вставшего зала, так что белорусские музыканты вынуждены были исполнить на бис «Польку»... Полтора часа концерта прошли как одно мгновение.

Интерес поляков к белорусскому «Народному альбому» и горячий прием варшавян — это не только интерес к искусству соседней страны и сентиментальное отношение к «восточным кресам», до 1939 года являвшимся частью Польши. Для поляков протест деятелей искусства против авторитарного режима — это естественная вещь. Во время военного положения здесь спонтанно образовалась широкая «внутренняя эмиграция» деятелей искусства и средств массовой информации, отказавшихся сотрудничать с режимом. В Беларуси такая позиция в кругу артистов — это скорее исключение, чем норма. И потому такие жемчужины, как музыкальный проект «Народный альбом», фильм «Обыкновенный президент» или книга Василя Быкова «Сцяна», вызывают тем больший интерес, что они являются единичными (к огромному сожалению) примерами действительно свободного творчества в несвободной стране. Стоит ли удивляться, что концерт закончился громким «Жыве Беларусь!» теперь уже в исполнении зрительного зала.

Своим присутствием концерт белорусов в Варшаве «почтил» Зенон Пазьняк с женой. Пазьняку, по его словам, происходившее на сцене понравилось: «Я люблю юмор». Куда меньше лидеру БНФ понравились вопросы корреспондента НАВІНАЎ о прошедших в Беларуси президентских выборах и их результатах. Суть краткого ответа заключалась в том, что не стоит обманывать себя самих, никакие это не выборы, «я в этом и не участвовал и результаты меня не интересуют». Даже сам Зенон Станиславович не осмеливается поставить под сомнение раз избранную позицию. Не захотел Пазьняк также поделиться с читателями НАВІНАЎ своими дальнейшими планами: своими планами, мол, он делится только с женой, вот и Лех Валенса заявляет, что выдвинет свою кандидатуру на президентских выборах, если жена позволит...

На концерт пришло довольно много белорусских студентов, к легендарной некогда фигуре лидера БНФ, однако, подходили единицы (некий экзальтированный юноша попросил после концерта у Зенона Станиславовича автограф, возможно, перепутав его с кем-то из выступавших музыкантов). Эмиграция вообще пошла Пазьняку на пользу. Впервые ладно сшитый благородного серого цвета костюм сидел на нем хорошо, а не висел, как некогда, на аскетической щуплой фигуре. Все, кто помнит острые скулы, придававшие его лицу выражение жертвенности и самоотречения народного трибуна, теперь были бы приятно удивлены его (т.е. лица) «подобревшим» видом...

Несмотря на окончание концерта, публика не расходилась. Записи белорусских рок-групп раскупались, как свежие булочки. А за кулисы к музыкантам «рванули» не только белорусские, но и украинские и немецкие журналисты. ■



Фота IREX/ProMedia

Группа NRM во время выступления на «Рок-коронации'98». Слева направо: Пит Павлов, Лявон Вольский, Юрий Левков

ВЫСТАВЫ

# Святы Мікалай наведаў Мінск

Марат ГАРАВЫ, БелаПАН

**У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры 21 траўня адкрылася выстава «Вобраз святога Міколы ў традыцыйнай і народнай культуры».**

Яе арганізатары выкарысталі найбагацейшыя фонды Веткаўскага музея народнай творчасці (Гомельская вобласць), калекцыі якога ўключаюць каля пяцісот твораў веткаўскай школы іканапісу і беларускай народнай іканаграфіі. На выставе, якая працягнецца тры дні, будуць прадстаўлены 75 выяваў святога Мікалая з калекцыі музея і прыватных збораў.

Як вядома, культ Мікалая-цудатворцы захаваўся ў беларускім народным календары з паганскіх часоў і адзначаецца двойчы на год: вясной — 22 траўня і ўзімку — 19 снежня. Выявы гэтага, бадай, самага шанаванага ў нацыянальным пантэоне, святога калісьці былі ў кожным доме. Яго імя ўзгадваецца ў мностве замоваў; з яго дапамогай выклікалі дождж; яго абразам благаслаўлялі на шлюб сыноў. Згодна з даўняй традыцыяй, для дзяцей святы Мікалай з'яўляецца прататыпам казачнага Санта-Клаўса і Дзеда Мароза.

На цяперашняй выставе будуць прадстаўленыя старыя пропісі (эскізы да абразоў) і фарбы, сярэбраныя чаканныя абклады і інструменты майстра-«золатакаваля», шытыя бісерам аправы і знакамітыя веткаўскія ручнікі, а таксама мноства тэкстаў — жыцціных, фальклорных і паданневых. ■

СПОРТ

# Працоўныя – стройся!

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Беларусь упарта змагаецца за тытул самай спартыўнай дзяржавы ў свеце. Трэба разумець, менавіта дзеля ўзмацнення сваёй спартыўнай рэпутацыі дзяржава не пашкадавала 13 мільярдаў рублёў на правядзенне чарговага шоў — Міжнародных гульняў працоўных. Як паведаміў міністр спорту і турызму Яўген Ворсін, гульні пройдуць у Мінску ў другой палове чэрвеня.

Па словах міністра, у спаборніцтвах возьмуць удзел не прафесійныя спартсмены, а «працоўныя» — трэба разумець, аматары — з краінаў СНД, а можа нават і з «далёкага замежжа». У праграму гульняў будуць уваходзіць «даступныя» віды спорту — ад валейболу-баскетболу да перацягвання каната.

Цяжка сказаць, наколькі такі від спорту, як перацягванне каната, патрабуе папулярызацыі ў Беларусі ці краінах СНД. Але на такую высакародную справу Беларусі не шкада ніякіх грошай.

Як сцвярджае міністр, у гульнях возьмуць удзел «усе, хто пажадае», у тым ліку і інваліды, і «спартыўныя сем'і». Цырымонія адкрыцця Міжнародных гульняў працоўных адбудзецца 23 чэрвеня на сталічным стадыёне «Дынама». «Усё будзе сціпла і даступна», – кажа Яўген Ворсін. Спаборніцтвы пройдуць на адкрытых пляцоўках побач з Палацам спорту, а таксама ў басейне «Гарызонт» і на стадыёне «Дынама».

Па словах Яўгена Ворсіна, 8 краінаў СНД ужо пагадзіліся даслаць у Мінск сваіх «аматараў». Але арганізатары чакаюць большага. Праз камітэт па спорце Савета Еўропы, а таксама праз МЗС яны даслалі запрашэнні ўзяць удзел у гульнях у іншыя еўрапейскія краіны. Праўда, адказу ад іх дагэтуль няма. Затое старшыня Міжнароднага алімпійскага каімтэта Хуан Антоніа Самаранч ужо ўзяў дзіўныя гульні пад свой патранаж – але грошай зноў-такі не даў. ■

# У чуда есть имя — Philishave

Многие хоть раз, да испытали недовольство после посещения парикмахерской. Еще бы – отсидеть очередь, заплатить приличную сумму – а в итоге получить на голове не то, что хотелось, о чем мечталось. Новая стрижка – это не неудавшийся костюм, который можно снять и спрятать подальше в шкаф, ловя сочувственные взгляды окружающих. С ней придется жить очень долгое время – пока волосы не отрастут. Конечно, можно принять и кардинальные меры – побриться наголо. Но тут уж вы рискуете с потерей волос приобрести новый, не совсем приятный имидж – прохожие начнут принимать вас за скина или гопника.

Сейчас же появилась великолепная возможность избежать всех этих разочарований. Более того, стрижку на любой вкус, даже с самыми невероятными «заворотами» можно сделать не выходя из дома. Достаточно лишь приобрести машинку для стрижки волос Philishave, которая является новейшим достижением в «цирюльничьей» области и оснащена уникальной телескопической расческой фирмы Philips.

Главный «плюс» этой машинки в том, что она чрезвычайно проста в обращении. Не нужно быть профессиональным парикмахером, чтобы сделать стрижку с помощью Philishave. В этом мы убедились совершенно случайно, попав на презентацию чудо-машинки в ночном клубе Макс-шоу.



В тот вечер в качестве развлекательной программы была представлена «Империя страсти» по-белорусски – спонсором выступила компания Philips. В одном из конкурсов участникам шоу было предожено соревнование, главным «снарядом» в котором стала машинка Philishave. Результат для людей, никогда в руках не державших это чудо высокой технологии, был потрясающий. На голове у юноши, милостиво предложившего себя для эксперимента, по окончании стрижки с одной стороны красовался зверек, похожий на кенгуру, а с другой – солнышко или цветок (это как кто увидит).

Вряд ли стоит вам, поизумлявшись, вздыхать: я, дескать, не в возрасте или не в числе поклонников авангарда. «Революцию» ведь можно сделать и вполне спокойной, «бытовой». Именно эта простая в обращении машинка позволит вам аккуратно и быстро постричь ваших маленьких сыновей, каждый поход с которыми в парикмахерскую отнимает массу сил физических и моральных, да еще сопровождается морем слез. Объемные закругленные концы режущих зубьев обеспечат максимальный комфорт для кожи вашего малыша. Philishave поможет придать красивую форму чуть заросшей прическе мужа прямо перед походом в гости. Постричь же свои бакенбарды перед зеркалом с помощью Philishave вообще сможет любой мужчина.

А уж для кого эта машинка сущий клад – так это для «продвинутой» молодежи и студентов. Теперь прямо в общежитии вы сможете воплотить в жизнь все самые невероятные фантазии в области дизайна собственных волос. Ведь уникальная телескопическая приставка-расческа позволит легко выбрать любую из 12 возможных длин волос (до 40 мм) и создать – т.е. выстричь – на своем затылке все, что вам заблагорассудится. Начиная с телефона любимой девушки и заканчивая портретом рок-кумира! Однако для более точного портретного сходства советуем все-таки потренироваться – например, на тех, кто перед летним сезоном решил постричься «под ноль», или на тех,



кто уходит служить в краснознаменную и легендарную. И вы руку набьете, и ваши подопытные на парикмахерской сэкономят.

Набив руку, вы сможете открыть даже частную парикмахерскую.

По секрету, совершенно бесплатно, можем дать совет нашим дамам. Если вы хотите, чтобы ваши ножки были более привлекательными, попробуйте воспользоваться машинкой Philishave в качестве... эпилятора. Думаем, что компания Philips за этот оригинальный эксперимент претензий к вам иметь не будет.

Во всех ваших самых смелых начинаниях помехой не станет даже повсеместное отключение электроэнергии, так как машинка Philishave работает и от сети, и от аккумулятора, что обеспечивает максимум свободы.

Психологи давно подметили, что люди, решив что-то изменить в своей жизни, начинают со своей внешности. Лучше делать это с помощью хороших приспособлений, таких как Philishave.

Вам уже захотелось приобрести эту новинку? Для самых нетерпеливых сообщаем телефоны дилеров в Минке:

283-19-42, 221-10-84, 210-19-13, 220-82-01.

Галя ПЕЛЯ, Слава СТЕПЯНСКАЯ

ПЫТАННЕ - АДКАЗ

**Добры дзень, шаноўная рэдакцыя. Летась вы друкавалі інфармацыю пра латэрэю, арганізаваную амерыканскім урадам, на атрыманне права выезда ў ЗША на сталае месца жыхарства — гэтак званай green card. Мы прынялі ўдзел у гэтай латэрэі, і хацелі б даведацца пра яе вынікі.**

**Ала Волкава, г.Асіповічы, Магілёўская вобласць.**

Як нам паведамілі ў амерыканскай амбасадзе ў Мінску, тыя, хто выйграе права на сталае жыхарства ў ЗША, атрымоўваюць па пошце паведамленні аб гэтым. Астатнія аўтаматычна застаюцца ў пройгрышы. Далей лёсам шчаслівчыкаў займаецца амерыканская амбасада ў Польшчы.

У амбасадзе ЗША ў Мінску нам паведамілі таксама, што сёлета пакуль латэрэя на атрыманне green card не праводзілася і невядома, ці адбудзецца яна ўвогуле. ■

Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 549 Нумар падпісаны ў друк 24/05/99 (15:00) Наклад — 16.870